Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 30 верасьня 1932 г. № 27 (52)

## Цікаўныя навіны.

Абшарніцкі орган „Слово" надрукаваў у № 238 з 25 верасьня перадавіцу пад загалоўкам *„Бурса ім. Голувкі"*. У гэтай стацьці пяра самага галоўнага рэдактара газэты (ён-жа пасол Сойму з клюбу ББ) знаходзім цэлы рад навін, датыкаючых беларускага жыцьця, якімі лічым сваім абавязкам падзяліцца з нашымі чытачамі.

Першая навіна датычыць нарадзіўшагася пад нейкай нешчасьлівай зоркай *будынку пад беларускую бурсу ў Наваградку.* Як ведама, на будоўлю гэтага дому Сойм высыгнаваў з дзяржаўных сум, у якія плывуць і беларускія грошы з падаткаў, 200,000 злотых, але з іх фактычна было выплачана толькі 70,000. Першую-ж падставу будоўлі прадстаўляла ахвярнасьць беларускага сялянства, якое панавозіла каменьня, прывезла лясныя матэрыялы і дало сваю працу пры плянтаваньні пляцу — разам з вучнямі беларускае гімназіі — і пры іншых работах. Давала сялянства і грошы, хоць з апошнімі справа йшла больш туга. І вось цяпер аказваецца, што — з ініцыятывы тых паноў паслоў з ББ, якія нядаўна абвясьцілі сябе беларусамі,—створаная беларускімі рукамі бурса для *беларускіх* дзяцей мае быць аддана да ўжытку *і польскіх* дзяцей і атрымае імя польскага палітычнага дзеяча Голувкі, ведамага ў нас тым, што ён быў праціўнікам усіх *самастойных* беларускіх нацыянальных пачынаньняў і культурных пляцовак...

Што такой польска-беларускай бурсе даецца імя Голувкі, — ну, гэта зусім зразумелая рэч. Але тое, што „Слово" піша, быццам грошы на бурсу былі сабраны палякамі, а беларусы далі на яе ўсяго „колькі сот злотых", — гэта ўжо зусім няпрыстойная і няслушная рэч. Няўжо-ж заўсёды такі „спрытны" абшарніцкі публіцыст ня мог прыдумаць ніякага апраўданьня пастановы перайначыць *беларускую* бурсу ў *польска-беларускую*?

Другая вестка, якую падае аб нашых справах абшарніцкая газэта, датычыць *беларускае прэсы.* І тут ізноў ня хочацца проста верыць, каб нешта падобнае мог напісаць чалавек, каторы на словах заўсёды так высака стаўляе чэсьць публіцыста. Пан Цат напісаў дасլоўна гэтак:

„... беларуская прэса знаходзіцца цяпер у вельмі благіх руках; „Крыніца" выяўляе такое нейкае дзіўнае адношаньне да некаторых спраў, што сьцягвае на сябе падазрэньне, што той, хто дае на яе грошы, не канешне легітымуецца польскім пашпартам; а „Беларускі Звон" — гэта газэта з крэпка антыпаньствовымі акцэнтамі. На шчасьце, паводле зусім пэўных інфармацыяў ад беларускага грамадзянства, „Беларускі Звон" перастане выходзіць".

Палемізаваць на падобныя тэмы з панамі абшарнікамі лічым бязмэтным: проці яўна злое волі ўсякія аргумэнты— бясьсільныя. Можа „Крыніца", якую „Слово" гэтак сама агідна зачапіла, вынюхіваючы, чым пахнуць яе грошы, захоча даць на гэта адказ. Мы адказваць ня будзем. Але затое мусім адзначыць характэрнае зьявішча: паны абшарнікі і іхнія публіцысты ў апошнія часы гэтак *абнаглелі*, што *крытыку абшарніцтва*, гэтае запраўднае скулы на грамадзкім і дзяржаўным целе Польшчы, абвяшчаюць *„антыпаньствовасьцяй"*.

*Вестка аб нашай сьмерці — крыху перадчасная:* мы, як бачаць нашы чытачы, яшчэ жывем і паміраць пакульшто ня зьбіраемся. Але на нібы-то беларускую крыніцу паходжаньня гэтае сэнсацыйнае навіны аб „Беларускім Звоне" неасьцярожна паказаў сам пан Цат: ён нядвузначна дае зразумець, што наша газэта мусіць быць зьніштожана, каб... *не перашкаджала новай часопісі ў беларускай мове*, которую мае выдаваць у Баранавічах *урадавы пасольскі клюб ББ...* Вось у чым справа! І—вось яшчэ адна цікаўная навіна.

Што-ж: у тых варунках, у якіх прыходзіцца жыць і працаваць беларускаму грамадзянству, магчымы ўсякія „неспадзяванкі". Але ніякія пагрозы ці то з боку паноў абшарнікаў, ці то з боку камуністаў, ці з яшчэ іншага ніколі ня прымусяць нас зыйсьці з шляху, па якім мы дагэтуль ішлі, ідзем і будзем ісьці, бароначы правы і інтарэсы беларускага народу ў Польшчы, як народу *самастойнага*, маючага *сваю нацыянальную культуру і нацыянальныя ідэалы.*

„Слово" многа салодкіх слоў гаворыць аб *польска-беларускім збліжэньні.* Але колькі-ж у гэтых словах няшчырасьці, колькі ўнутранае ілжы! Мы так сама лічым *абсалютна неабходным* збліжэньне з польскім народам — і ня толькі з польскім, але з усімі тымі народамі, з якімі жывем ці то на аднэй супольнай тэрыторыі, ці ў межах аднае дзяржавы. Але беларусы могуць ісьці на такое збліжэньне толькі *як самастойная, добра з'арганізаваная нацыянальная адзінка*, толькі пад варункам *захаваньня сваей нацыянальнай душы і нацыянальнага абліча.* Усе спробы збліжэньня ў іншых варунках, асабліва калі нацыянальная самастойнасьць беларускага народу будзе папросту *перачырківацца* другой стараной, як гэта робяць паны абшарнікі, — ніколі сваей мэты не дасягнуць і будуць прадстаўляць адну шкодную і небясьпечную *фікцыю*, хоць-бы на гэта і пайшлі выкіненыя за борт беларускага жыцьця адзінкі — п.п. Аляксюкі, Паўлюкевічы, Акіньчыцы ды Валэйшы.

Такую фікцыю якраз і пропагуе абшарніцкая прэса, якая аднача́сна выразна *заклікае дзяржаўную ўлады да здушэньня беларускага нацыянальнага руху*

## Перамога Гандзі.

20 верасьня Гандзі распачаў „галодную забастоўку", якая ўсхвалявала блізу ўсю Індыю. „Галадоўка" Гандзі мела мэтай націснуць ня толькі на англійскі ўрад, але і на індускае грамадзянства, ў першую чаргу на вышэйшыя касты Індыі, каб прызналі прынцыпова палітычнае, а насампер чалавечае раўнапраўе парыяў, а так сама і на парыяў, каб адмовіліся ад падсоўванай ім англійскім урадам—у мэтах нацыянальнага расколу ў Індыі—асобнай выбарнай курыі.

Дзіўны гэты мэтад палітычнай барацьбы аказаўся нязвычайна дзейным. Перад усім прыклад Гандзі выклікаў насьледаваньне: як даносяць газэты, ў Індыі такіх „галадамораў" знайшлося больш за 50,000; некаторыя з іх навет паўміралі... Відаць, Гандзі добра ведае свой народ і патрапіў узварушыць яго да глыбіні душы. Аднача́сна правадыры розных нацыянальных, палітычных і ўсякіх іншых арганізацыяў, як вышэйшых кастаў, таксама і парыяў, бясспынна пачалі рабіць нарады і высылаць дэлегатаў да Гандзі, каб за ўсякую цану не дапусьціць да сьмерці Мага'Тмы (Вялікага Духа, ці прарока), якога ўся Індыя шануе, як сьвятога. Справа паразуменьня паміж адвечна варожымі кастамі шпарка пайшла наперад.

**Урэшце 24 верасьня ў вастрожнай цэлі Гандзі адбылося здарэньне, якое трэба лічыць новай эрай у гісторыі Індыі: паміж дэлегатамі вышэйшых кастаў Індыі і паўнамочнікам парыяў было падпісана паразуменьне ў справе палітычнай і грамадзкай раўнапраўнасьці парыяў.** Паразуменьне прадбачыць 148 мандатаў для парыяў у самаўрадавых правінцыяльных парлямантах (англійскія „дабрадзеі" парыяў давалі ім толькі 71 мейсца). У цэнтральным парляманьце Індыі парыям унутранае паразуменьне забясьпечыла 18 працэнтаў усіх мандатаў, англійскі-ж праект прадбачыў мала больш паловы гэтага. Далей паразуменьне дае парыям поўную свабоду і ўчасьце ў кантролі над усей выбарнай акцыяй. Парыям гарантавана ўчасьце і ў дзяржаўнай адміністрацыі. Паразуменьне мае абавязываць на 10 гадоў, пасьля чаго падлягае перагляду.

Гандзі зацьвярдзіў ды багаславіў паразуменьне, якое назваў **сьвятым і абязываючым, як закон самога Бога.** Безадкладна тэкст паразуменьня быў высланы праз тэлеграф Мак-Дональду—з дадаткам, што ўсякі адклад з боку англійскага ўраду ў зацьверджаньні паразуменьня пагражае сьмерцяй Гандзі, які ўжо ледзь жыве. „Сьмерць сьвятога прарока, казала тэлеграма, выклікала-б неаблічальныя вынікі і няшчасьці для абедзьвюх старонаў"...

Пасьля гэтага больш двух дзён Гандзі быў яшчэ паміж жыцьцём і сьмерцяй. Толькі 26 верасьня Мак-Дональд адказаў, што

## На разбраенчай канфэрэнцыі.

Адсутнасьць Нямеччыны, як адчувае большасьць дэлегацый, робіць працу канфэрэнцыі блізу бязмэтнай: бо-ж Нямеччына, асабліва ў яе сучасным палітычным стане, лічыцца большасьцяй дзяржаваў галоўнай пагрозай міру ў Эўропе. Дык пасьля двухдзённых нарадаў кіруючыя канфэрэнцыяй дзяржавы прыпынілі працу канфэрэнцыі і распачалі пабочныя нарады з прыбыўшымі ў Жэнэву на сэсію Лігі Нацыяў нямецкімі дыплёматамі—ў справе паразуменьня.

Як даносяць з Жэнэвы і з Лёндану, англійскі ўрад, выслаўшы да Нямеччыны вельмі становучую ноту, каторая адкідае нямецкія імкненьні да аднастароннай зьмены Вэрсальскага трактату ў галіне збраеньняў, фактычна націскае на Францыю, каб тая пайшла на нейкі кампраміс з Нямеччынай, прызнаўшы ёй хаця-б толькі „маральнае раўнапраўе“ ў збраеньнях. З другога боку, англійскі ўрад прапануе, каб Нямеччына згадзілася не выкарыстываць фактычна гэтага „маральнага“ права, пакуль канфэрэнцыя не апрацуе роўныя (?), ці правільней: прапорцыянальна-справядлівыя для ўсіх нормы і лічбы збраеньняў. Інакш, як піша англійская прэса, канфэрэнцыя ня выйдзе з стану паралiжу, у якім апынулася ў выніку байкоту з боку Нямеччыны.

Нямецкі ўрад заявіў, што будзе чакаць паўторнага запрошаньня на канфэрэнцыю на падставе раўнапраўя ўсіх дзяржаў і ня будзе адказываць на англійскую ноту дый устрымаецца ад учасьця ў канфэрэнцыі. Нямецкая дэлегацыя пагражае навет **байкотам агульнага збору Лігі Нацыяў і — поўным выхадам з складу Лігі**, калі дамаганьне Нямеччыны ня будзе споўнена. Лёс канфэрэнцыі такім чынам, як піша англійская прэса, апынуўся ў руках Эрыё, якому „Таймс“ радзіць „кіравацца здаровым розумам дый не адмаўляць Нямеччыне таго, да чаго Францыя можа быць пасьля прымушана пад націскам правакацыі“... Тым балей, што Эрыё ня мае поўнага падтрыманьня для свайго апору проці страшэнна небясьпечных нямецкіх дамаганьняў навет у сваіх партыйных сяброў. Яго апор падтрымліваюць цалком усе яго міністры дый старыя правадыры радыкальнай партыі, ня кажучы аб партыях направа. Але блізу уся партыйная радыкальная моладзь рашуча націскае на яго ў кірунку уступак нямецкім дамаганьням!

Ці Амэрыка падтрымае францускі ўрад даканца—пры кампрамісных настроях у Лёндане, так сама сумліўна. Дзеля таго трэба думаць, што нейкі кампраміс будзе знойдзены, і Нямеччына, пасьля новага чарговага пасьпеху, хаця й ня поўнага, прыйме ўчасьце ў далейшых працах канфэрэнцыі. Але ці з гэтых працаў выйдзе запраўды нешта паважнае, гэта—зусім іншая рэч. Падзеі на Далёкім Усходзе залішне красамоўна кажуць аб праціўным.

## Лоўкі ход Нямеччыны.

Калі-б Нямеччыне ўдалося дабіцца свайго на разбраенчай канфэрэнцыі, дык пасьля скасаваньня фінансава-гаспадарчых цяжараў (адшкадаваньняў) і ваенна-палітычных гарантыяў (абмежаньне стану збраеньня)—ад Вэрсальскага трактату фактычна асталіся-б толькі тэрытарыяльныя (зямельныя) страты Нямеччыны, дзеля звароту якіх яна якраз і дамагаецца цяпер раўнапраўя ў збраеньнях і права на адбудаваньне даваеннай баявой сілы. Дык вось, — як раз у часе нарадаў канфэрэнцыі,—нямецкі ўрад наладзіў вялікія манэўры на Усходзе, якія мелі мэтай даведацца і пераканаць замежных ваенных фахоўцаў, а праз іх і палітыкаў, што пры сучасных абмежаньнях у збраеньні: пры трактатовай забароне Нямеччыне мець рожнага роду новачасныя ваенныя прылады, як танкі, маторныя тракцыя, ваенныя аэрапляны, цяжкая артылерыя і інш., „усходняя армія“ (польская), маючы ўсе гэтыя прылады, можа навет пры лічбова слабейшых сваіх сілах зламаць апор бароначай Бэрлін нямецкай арміі, прарваць абаронны пас уздоўж ракі Одры, які гэтак траціць усялякую вартасьць, і—заняць сталіцу Нямеччыны...

Палітычная мэта манэўраў—зусім ясная. Яны павінны былі пацьвярдзіць тое, аб чым нямецкія дзяржаўнікі казалі на канфэрэнцыі: безбароннасьць Нямеччыны ад усходу пры існаваньні мілітарных абмежаньняў Вэрсальскага Трактату.

## Разрухі безработных у Англіі.

У адным з найвялікшых фабрычных раёнаў Англіі (Лівэрпульскім) адбыліся масавыя дэманстрацыі безработных, якія мелі нябывала жорсткі крывавы характар і скончыліся чысьленымі ахвярамі. Аграмадны натоўп работнікаў даў рад запраўдных баёў паліцыі, якая пускала ў ход аружжа. Але, ня гледзячы на шматлікія арышты, забурэньні ў лівэрпульскім і біркенхэдскім раёнах ня спыніліся. У расхваляваныя раёны падцягнена шмат паліцыі.

Як ведама, лічба безработных у Англіі дайшла блізу да трох мільёнаў...

## Новы ўрад у Швэцыі.

Новы ўрад у Швэцыі складаецца цалком з сяброў сацыял-дэмакратычнай партыі; на чале яго стаіць б. міністар нацыянальнай абароны Гансон.

# ХРОНІКА.

— **Палітычны працэс у Баранавічах.** Навагрудзкі акружны суд на выезднай сэсіі ў Баранавічах засудзіў за проці-дзяржаўную дзеяльнасьць цэлы рад акалічных сялян, а паіменна: жыхараў вёскі Сіняўская Слабада, Дэрэўнянскае гміны, Васілеўскага Барыса—на 6 гадоў цяжкое турмы з пазбаўленьнем правоў, Балабановіча, Парэцкага і Тарасевіча — на 4 г. кожнага; жыхараў вёскі Малая Обрына, Турэцкае гм., Пешку Аляксандра і Пагадзенку Аляксея—на 6 гадоў кожнага; жыхараў Лядзкае гм. Цабу Аляксея (в. Лядкі) —на 6 гадоў, Буську (в. Лядкі) і Цабу (в. Пагарэлкі)—на 4 гады кожнага; жыхараў вёскі Чыжэва, Турэцкае гм., Сврыта (?), Кергетаў Яна, Міхала ды Уладзімера, Галецкіх Яна ды Уладзімера, Смалянку Мікалая, а таксама жыхара вёскі Даўгінава Буя Пётру — на 5 гадоў кожнага. Усяго 17 асоб, разам на 84 гады. Прозьвішчы падаем паводле віленскага „Слова“.

— **Падпал двара Мечыславова.** Надовячы згарэў да-тла з усімі будынкамі і ўсім ураджаем двор Мечыславов, Груздоўскае гміны. Паліцэйскае дазнаньне сцьвердзіла, што пажар узьняўся ад падпаленьня. На гэтай падставе паліцыя заарыштавала двух акалічных жыхараў, думаючы, што яны маглі гэта зрабіць. Справа аддана падпракурору ў Глыбокім.

— **Неўраджай грыбоў.** У зьвязку з сёлетнім неўраджаем грыбоў цана на іх значна ўзрасла. Віленская грыбасушылка, якая вывозіла заграніцу ў сярэднім каля 50.000 кіляграмаў грыбоў у год, ня здолее кінуць на замежны рынак, ня гледзячы на вялікі попыт, больш паловы гэтай колькасьці. Чысьленыя ў нашым краі гуртоўні грыбоў так сама ня здолеюць здаволіць навет польскі рынак. Дзеля таго той, хто набраў сёлета грыбоў, можа на гэтым добра зарабіць.

— **Эпідэмія тыфусу.** У Вільні, як і ў паветах Віленска-Троцкім, Дзісьненскім, Браслаўскім і Сьвянцянскім, ізноў выбухла эпідэмія брушнога тыфусу; захварэўшыя лічацца дзесяткамі.

# Корэспондэнцыі.

## Кс. Бародзіч „за работай“.

(Дзісеншчына).

Усе ў Дзісеншчыне памятаюць „працу“ вядомага чалавеканенавісьніка ксяндза Бародзіча. Гэты ксёндз у свой час ламаў крыжы праваслаўных, руйнаваў праваслаўныя капліцы, выкідаў з магіл нябожчыкаў і т. д. Дайшло да таго, што ў Леанполь змушаны быў у свой час выехаць ваявода, каб зьліквідаваць канфлікт, выкліканы гэтым дзікім кзяндзом. І запраўды нейкі час было спакойна: згінуў гдзесь Бародзіч, і ўсё было добра. Аж 18-га гэтага верасьня пры капліцы ў Бабалёве зьявіўся ўзноў Бародзіч і сказаў казаньне, ў якім называў усіх некатолікоў „быдлём“, а крыж іншых хрысьціян—„чартоўскім“. Праклінаў усіх тых, хто не пяройдзе ў каталіцтва, аж да сёмага пакаленьня. Прызываў да барацьбы з праваслаўнымі, як з „бальшавікамі“. Паліцыя, прысутная пры гэтым, на ўсе гэтыя дзікія прызывы зусім чамусь не рэагавала, дык ён лаяўся, як-бы на рынку. Словам, калі дазволіць улада і далей так прамаўляць гэтаму асабліваму „ксяндзу“, то мусіць узноў прыдзецца выяжджаць ваяводзе, каб ліквідаваць тое, што ён пасее. А нічога ня вінныя людзі за яго будуць пакутаваць у турме за procізаконныя выступленьні, на якія гэты дзікун іх падбівае, карыстаючыся іхняй цемнатой.

Схамянецеся, браты! Памятайце, што вы ўсе—і каталікі, і праваслаўныя, — сыны таго-ж самага беларускага народу, дзеці аднае маткі—Беларусі. Не давайце послуху заклікам да ненавісьці, бо-ж не таго вучыў Хрыстос, іменьня Каторага надужывае гэты дзікун!

**Каталік.**

## Спэкулянт на мужыцкай бядзе.

(З Дзісьненшчыны).

Вясной гэтага году на стражніцу ў Алешчанцы прыехаў будаваць студню нейкі інж. Сьцяпан Осталоўскі. Гэты пан спачатку кідаўся грашыма і плаціў за падводу ці за яду. Відзячы ўсё гэта і ведаючы, што будуе ён студню за грошы ўлады, ўсе пайшлі да яго на работу, тым болей, што ён абяцаў плаціць па атрыманьні грошаў ад улады. За студню яму заплаціў Урад штось, як кажуць сяляне, каля 30—40 тысячаў. Працавалі дзесяткі людзей блізу ўсё лета. Але, калі работа прыхадзіла к канцу, згінуў наш пан інжынер, пакінуўшы нейкага тэхніка, каторы закончаную студню і здаў войску. Сяляне пачалі раскапываць, куды згінуў інж. Осталоўскі?. Па нейкім дадзеным даведаліся, што ён гдзесь каля Вільні купіў на імя сваёй жонкі ці сваячкі вялікі маёнтак і цяпер спакойна жыве. Цікава, што такім спосабам будаваў ён усе студні блізу на ўсей усходняй граніцы Рэчыпаспалітай, нігдзе цалком ня плацячы сялянам за работу. Пісалі сяляне і да інспэктара працы ў Вільню, каб затрымаў для іх грошы ў Давудзтве вайсковым, але нічога з гэтага ня вышла. Спачатку інспэктар пісаў, што грошы ёсьць і што ён іх затрымае, а пасьля напісаў, што грошаў няма і што трэба, каб сяляне падалі ў Суд. Адным словам—справа цёмная, і трэба было-б, каб у гэтую справу ўнікла Улада і з свайго боку пацягнула да адказнасьці гэтага пана інжынера.

**Дзісенчук.**

# Усячына.

## Колькі людзей ёсьць на сьвеце.

Статыстычны гадавік Лігі Народаў з бягучага году падае найнавейшыя дадзены адносна колькасьці людзей, пражываючых па ўсей зямной кулі. Агулам на ўсім сьвеце жыве больш двох міліярдаў людзей (дакладна: 2 міліярдь, 12 міліёнаў, 800 тысяч чалавек).

Агульны прырост людзей ў параўнаньні з лічбамі з мінул. году дасягнуў 20 міліёнаў.

З усіх часьцей сьвету найбольш людзей мае Азія (больш, чым міліярд). Далей ідзе Эўропа з 506 міліёнамі людзей (у мінулым годзе было 498 міліёнаў)

Амэрыка мае агулам 252 міліёны людзей, з якіх 134 міліёны жыве ў Паўночнай Амэрыцы, 83 міліёны ў Паўднёвай Амэрыцы і 35 міліёнаў у Сярэдняй Амэрыцы.

Найвялікшы прырост людзей у Эўропе выказваюць: СССР, Польшча і Гішпанія. Англія і Нямеччына застаюцца бяз зьмен, тагды як Францыя ў сёлетн. годзе мае на паўміліёна больш, чым у мінулым. Неспадзяваным і, можна сказаць, дзіўным застаецца факт, што Італіі у якой, як вядома, Мусаліні ўсякімі спосабам, прапагуе прырост нясяленьня, выказала ў сёлетнім годзе зьмяншэньне аж на 406 тысячаў чалавек. З краін Амэрыкі найбольш прыбыло ў Паўночн. Злучаных Штатах, Канадзе і Бразыліі.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22